Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 2 (54) | Вільня, 21-га студзеня 1935 г. | Год 3-ці.

## Школа і палітыка.

Пагляд, які панаваў яшчэ так нядаўна, што ў школу не павінен праходзіць луч сучаснасьці, збанкрутаваў канчальна.

Баязьлівасьць жыцьця, якая так выразна адбівалася ў старой школе, з сучаснай тэорыі ўзгадаваньня выключана. Жыцьёвыя пытаньні лічацца цяпер натуральнымі, законнымі пытаньнямі кожнага здаровага дзіцяці. Школа павінна пераказваць новаму пакаленьню досьлед папярэдніх, і адсюль—неабходнасьць цеснае яе сувязі з жыцьцём.

Амэрыканскі пэдагог Д'юі ў сваёй вядомай працы: «Уступ да філёзофіі ўзгадаваньня» падкрэсьлівае, што перадача дзецям досьледу папярэдніх пакаленьняў мае вельмі важнае значэньне. Але ў сучасны мамэнт трудна ўціснуць у рамкі кніжнага навучаньня ўвесь запас здабытай веды і тэхнічных дасягненьняў.

Аднак школа ня толькі вучыць, ня толькі передае здабыты досьлед папярэдніх пакаленьняў. але такжа й узгадоўвае моладзь, а—„узгадаваньне, як кажа праф. Фэр'ер,—гэта штука пры дапамозе абуджанай цікавасьці дзіцяці пакіраваць разьвіцьцё яго духовых і маральных сілаў так, каб яно адпавядала тым законам разьвіцьця, якіх трымаецца кожны прагрэс – біолёгічны, псыхолёгічны й соцыяльны".

З гэтага вынікае. што каб узгадаваць поўнага чалавека, неабходна падрыхтаваць яго да сучаснага грамадзкага жыцьця,а гэтае апошняе фактычна лучыцца з палітычным узгадаваньнем моладзі.

Як бачым, справа ўзаемаадносін школы да жыцьця заўсёды прывядзе нас да разгляду палітычных пытаньняў.

Разгледзім цяпер, ці магчыма дзе-небудзь і калі-небудзь нейкае „нэйтральнае" ўзгадаваньне?

Нават старая школа, школа, якая так любіла прыкрывацца лёзунгам апалітычнасьці, ніколі й ні ў якім выпадку такою ня была.

Царскі ўрад, як ведаем, прыдаваў вялікае значэньне т. зв. рэлігійна-маральнаму ўзгадаваньню, якое фактычна зводзілася да напіханьня вучнёўскае галавы ідэямі „самодержавія и православія". Заходня-эўропейская даваенная школа праводзіла фактычна тое самае—прышчапляла моладзі тыя ідэі, якія праводзіла дзяржаўная палітыка.

У новай польскай школе паложаны вельмі вялікі націск на так званае дзяржаўнае ўзгадаваньне,—ня толькі палітычна ўсьведаміць падрастаючае пакаленьне, але даць яму пэўны партыйны, так сказаць, кірунак. Ідэя дзяржаўнасьці, як ведаем, рознымі палітычнымі партыямі разумеецца парознаму: інакш будзе уяўляць сабе ідэю дзяржаўнасьці *эндэк*, інакш *пэпэс*, інакш *камуніст*, а яшчэ інакш так званы *санатар*.

І дзеля гэтага ідэя палітычна-грамадзкага ўзгадаваньня моладзі там, дзе на чале школы стане такі „урапатрыёт", які ўважае сябе большым каталіком чымсь сам Рымскі Папа, можа ператварыць самую школу ў нейкае партыйна-агітацыйнае бюро.

Уявіць сабе аднак з другога боку нейкую «беспартыйную школу» з «беспартыйным» кіраўнікам, „беспартыйнымі" ўзгадаваўцамі ды ў давяршэньне ўсяго яшчэ з „беспартыйным духам навучаньня" таксама нельга, бо-ж нельга, уявіць сабе вядзеньне ўзгадаваўчае працы без ор'ентацыі на той ці іншы грамадзкі ідэал. Мы добра памятаем гэтую ор'ентацыю ў старой расейскай школе, яшчэ болей яскрава яна праводзіцца ў сучаснай школе савецкай ды ня менш выразна — і ў сёньняшняй школе польскай. І той, хто пажадаў-бы даць дзецям грамадзкае ўзгадаваньне ў духу абсалютнай, так сказаць, беспартыйнасьці, той, пры ўсёй сваёй шчырасьці й сумленнасьці, не справіўся-б з гэтай задачай, а выявіў-бы пэўны ўхіл у той ці іншы бок.

Труднасьць рэалізацыі гэтага пытаньня залежыць ад дзьвёх прычын: 1) узгадаваўчы ўплыў на моладзь мае ня толькі й выключна школа, дзе звычайна дзеці праводзяць 5—6 гадзін, а ў значнай меры сям'я і пазашкольнае акружэньне, 2) сучасная эўропейская школа (за выняткам школы савецкай) не з'яўляецца школай клясавай.

Апошняя прычына ня дзеець у школе беларускай, якую можна лічыць выключна сялянска-работніцкаю (95% вучняў — дзеці сялян і работнікаў), але за тое тут маем іншыя труднасьці, труднасьці пагадзіць нацыянальныя ідэалы беларускай моладзі з ідэямі польскай дзяржаўнасьці. Труднасьці гэтыя, дзякуючы неўнармаваньню справы беларускага школьніцтва, значна павялічваюцца.

Не зважаючы аднак на ўсе пералічаныя труднасьці,ісьці ў кірунку адарваньня школы ад жыцьця ніяк нельга, — але патрэбны вялікі высілак пэдагогічнага мастацтва з боку самаахвярнага вучыцельства ды шчырыя й чэстныя адносіны да гэтага важнага пытаньня з боку школьнае ўлады. Трэба і можна даць моладзі пэўны палітычны кірунак, але ня ўцягваць яе ў вір, усераз'ядючага старэйшае грамадзянства, партыйніцтва.

## Л. Троцкі аб махінацыях ГПУ

У журнале „7 Дзён" Троцкі апублікаваў 12 студня сёл. году свой адказ на бальшавіцкі акт абвінавачаньня проці тэрорыстаў, забіўшых Кірава.

Троцкі сам абвінавачвае Сталіна і ГПУ.

У канцы свайго доўгага пісьма Троцкі сэнсацыйна раскрывае подкуп Сталіным усіх г. зв. „павадыроў" работніцкага руху на Захадзе.

— Я павінен сказаць, — піша Троцкі, — што адзін з першых вострых конфліктаў з „тройкаю" Сталін-Зіноўеў-Каменеў быў пасьледзтвам майго пратэсту проці таго, што ў часе хваробы Леніна „тройка" пачала сыстэматычна псаваць найбольш лагодных „павадыроў" работніцкага руху на Захадзе, не закідаючы, паміж іншым, і гэткага спосабу, як подкуп.

— Калі буржуазія падкупляе павадыроў трэд-юніонаў (ангельскія прафэсіянальныя саюзы — *Рэд.*), парлямэнтарыяў, журналістых, дык чаму-ж і нам не рабіць гэтак-жа сама?—пыталіся ў Троцкага дружныя ў свой час Сталін і Зіноўеў.

Паміж іншым, Троцкі расказвае і аб тым, што чужаземныя консулі бывалі агентамі ГПУ:

— „Нажаль, нават запраўдныя консулі мала падобныя да сьвятых. Я з блізка сачыў за імі,—кажа Троцкі.

Некаторыя з іх займаюцца контрабандай, незаконнымі апэрацыямі з валютаю ды нарэшце фатальна пападаюць у рукі ГПУ... Гэткаму, які ўжо папаўся, консулю ГПУ звычайна прапануе ня толькі дараваньне ўсіх яго ранейшых грахоў, але і паважную купу грошай, калі ён толькі... згодзіцца на некаторыя нявінныя паслугі!

Гэткія здарэньні з консулямі бывалі ў мой час, — сьведчыць Троцкі,—яны істнуюць і цяпер дый будуць істнаваць датуль, пакуль істнуюць консулі, мытныя ўстановы, валюты, пасярэднікі—мужчыны і жанчыны — ды прадпрыемчывая паліцыя"...



## Аб „материнскомъ языкѣ или же мѣстномъ нарѣчіи".

Справа беларусізацыі праваслаўнае царквы і каталіцкага касьцёлу на нашых землях вельмі пільная і вельмі важная ў жыцьці беларускага народу, бо-ж яна цесна лучыцца, прынамся ў Заходняй Беларусі, з узгадаваньнем нашых дзетак, нашае моладзі, інакш кажучы, ад яе залежыць у пэўнай ступені наша будучыня. Але нашыя дасягненьні ў гэтым напрамку невялікія. Ведама, што за апошнія гады беларусізацыя каталіцкага касьцёлу на беларускіх землях ані не пасунулася наперад, ці то з тае прычыны, што неяк астыў запал да гэтае справы сярод беларускіх ксяндзоў, ці то з іншых прычынаў. Ня лепш стаіць справа беларусізацыі і ў праваслаўнай царкве.

На адбыўшымся ў канцы мінулага году зьезьдзе благачынных Віленскае епархіі па пытаньню аб навучаньні ў школах Закону Божага была ўхвалена кароткая ды на першы пагляд мала зразумелая рэзалюцыя — „преподаваніе вести по старому". Ці-ж сапраўды лёгка зразумець, як гэта вучыць „по старому"? Можа так, як „въ хорошее прежнее время", ці, прасьцей кажучы, парасейску? Так гэта і трэба разумець „по старому", аб чым сьведчаць колькіразовыя заявы на гэту тэму аўтараў такое рэзалюцыі, стаўпоў русафікатарскае часткі сярод праваслаўнага духавенства. Па іх словах — „мѣстное православное населеніе (г. зн. беларусы, бо-ж на правінцыі іншых праваслаўных у нас няма, за выняткам некалькіх адзінак)не понимаетъ бѣлорусскаго языка (свайго роднага?!) и потому приходится вести преподаваніе Закона Божаго на материнскомъ языкѣ или же на мѣстномъ нарѣчіи", г. зн. парасейску. Да гэтага „столпы" усякімі спосабамі і рознымі штучкамі змушаюць і тую частку лепшага праваслаўнага духавенства, якая лічыцца з тым, што часы зьмяніліся і стараецца выкладаць Закон Божы ў зразумелай для нашых дзетак роднай беларускай мове. Як відаць, „столпы" за свой доўгі век, бо гэта пераважна людзі старыя, нічому не навучыліся і аб нічым ня хочуць забыцца, моцна пэўныя, што ў гэтым пытаньні заўсёды знойдуць (дасюль знаходзілі) падтрыманьне з боку найвышэйшых царкоўных праваслаўных уладаў у Польшчы. Як адбіваецца такое замаскаванае, але белымі ніткамі шытае, „невмѣшательство въ политику" на нашых гаротных школьніках-дзетках і без таго змушаных вучыцца пераважна ў чужой для іх польскай мове, найлепш відаць з рэзультатаў навучаньня ў сучаснай школе на нашых землях, але таксама ня менш відаць і з таго, што давала нашым дзецям некалі і часта так хваленая, старая расейская школа, калі было столькі „невукаў", у значнай ступені з прычыны навучаньня у незразумелай мове й нашага цяперашняга старэйшага пакаленьня.

*П.*

*(Працяг будзе)*

# Што бачыў чужаземец у СССР?

Карэспандэнт вядомае ангельскае газэты „Таймс“ Пітэр Флемінг пасланы быў рэдакцыяй свае газэты на Далёкі Усход. П. Флемінг паехаў туды праз Расею і цяпер апісвае ў „Таймсе“ свае ўражаньні.

Ён праехаў праз усю Расею, Украіну і Каўказ да Каспійскага мора, а пасьля, праз савецкія рэспублікі Цэнтральнае Азіі, дабраўся да Новасібірску ды Сібірскаю і Амурскаю жалезнаю дарогаю прыехаў у Уладывасток.

Падарожа Флемінга ў Расею ня першая; ён бываў там не адзін раз раней.

Пра апошнюю сваю падарожу ён расказвае гэтак:

— Масква, катораю я пакінуў у верасьні месяцы 1934 году, значна адрозьнівалася ад Масквы 1931 і нават 1933 г. г.

Вуліцы куды чысьцейшыя і лепш выбрукаваныя, хвасты каля крамаў значна меншыя, жабракоў можна сустрэць рэдзей. Над-сучасныя па сваім выглядзе дамы-блёкі ўжо трудна назваць „паветранымі замкамі“, бо яны запраўды істнуюць; на скрыжаваньнях вуліцаў ёсьць сыгнальныя агні, што рэгулююць вулічны рух, падмігваюць грузавіком, вялікі лік якіх збудованы ўжо ў самой Расеі; яны езьдзяць то туды, то сюды і развозяць матар'ял дзеля далейшага будаўніцтва.

Землякопы, бяз розьніцы полу, напружана працуюць каля будовы пад'земнае чугункі, што мае мэтаю разгрузіць перапоўненыя маскоўскія трамваі.

Натаўп лепш апранены, а жанчыны, — усё яшчэ малаэлеганцкія на эўропэйскую мерку, — моцна карыстаюцца косметыкаю.

Шчодрая выстаўка тавараў у вокнах маскоўскіх магазынаў ужо не зьяўляецца аднаю толькі дэкарацыяй, але *шмат якія з выстаўленых тавараў усё яшчэ ня ідуць у продаж.*

У отэлях можна знайсьці ўсе выгады і нават некаторую роскаш.

Пітэр Флемінг зьвярнуў сваю ўвагу на маскоўскі Парк Культуры і Адпачынку, які для жыхароў Масквы—гэта тое самае, што Люна-Парк для бэрлінцаў або Конэй-Айлэнд для жыхароў Нью-Іорку.

— Будынкі, якія з выгляду можна палічыць за буды-балаганы, — расказвае карэспандэнт, — аказваюцца чытальнямі, а манэкены ў ціры сымболізуюць ворагаў камунізму: капіталістых, нацыянальсоцыялістых, сьвяшчэньнікаў і г.д.

Галоўная атракцыя — гэта трупа з дзевяцёх наезьнікаў і трох наезьніц, якая дэмонструе даволі благенькую язду конна. Апрача таго ў вялікай модзе скокі з парашутамі, якімі захапляецца ўся маладая Масква, аддаючы гэткім чынам доўг авіяцыі.

Каля прысадзістага, крываво-чырвонага маўзолею Леніна на Чырвоным Пляцы ўсё яшчэ таксама стаяць штодзенна тысячныя хвасты людзей, з сур'ёзнымі мінамі мэханічна пасоўваючыся да ўваходных дзьвераў.

На падарожнага, які кіруецца на поўдзень, ня можа не зрабіць уражаньня Харкаў, яшчэ гэтак нядаўна—сталіца Украіны.

Вялікія, эфэктоўныя на выгляд дамы-блёкі, прызначаныя для работнікаў, надаюць гораду сучасны выгляд. Тут, як і ўва ўсіх іншых галоўных савецкіх местах, для работнікаў створаны клюбы, з тэатрамі пры іх, бібліятэкамі ды іншымі культурнымі арганізацыямі. Аднак-жа, *з нейкіх невытлумачальных прычынаў, усе клюбы, якія адведваў Флемінг, зіхацелі поўнаю пустатою: ніхто ў іх не зьяўляўся.*

У тым самым Харкаве падарожны-чужаземец так-жа сама абавязкава пападае ў паложаны каля гораду *паказальны колхоз*, у цэнтры якога стаіць вёсачка з белых хатак з саломенымі стрэхамі ды малюсенькімі, вечна зачыненымі, ваконцамі.

У самых хатках радыё гаворыць аб новых плянах крэмлёўскіх уладароў.

Найцікавейшая рэч у гэтым колхозе—гэта тое, што яго жыхаром пазволена некаторае „кулацтва“, бо большасьць з іх мае, напрыклад, уласныя садочкі-гародчыкі ды дзьве-тры сьвіньні або каровы. У агульнай сталоўцы даюць за танную плату (напэўна толькі для чужаземца — *Рэд.*) даволі сытную яду: суп, хлеб, бульбу і гарбуз (дыню). Маленечкія дзеці ўвесь дзень знаходзяцца ў агульных ясьлях. Яны выглядаюць добра, хоць, як відаць, *утамляюцца ад вечных наведваньняў і агляданьняў з боку чужаземцаў.*

У Растове-на-Доне разьвіцьцё прамысловага будаўніцтва заўважваецца ня менш, як у Харкаве. Вялікі машынны завод выпушчае тамака машыны без падмогі чужаземных сілаў. Работнікі добра аплачваюцца, але трымаюць іх у строга арганізованай дысцыпліне. Перад пачаткам работы штодня бывае абавязкавая гімнастыка на пяць мінут. Не забываюцца і пра агітацыю. Работніку, які пытаўся ў мясцовым доме культуры пра творы Фэнімора Купэра, шырока тлумачаць, што Купэр—прадстаўнік шовіністычнае і імпэрыялістычнае літэратуры — зусім няварты таго, каб яго чытаў чэсны пролетар.

Падарожнага, які не прыхіляецца да офіцыяльнае статыстыкі, *цікавяць тыя контрасты, якія характарызуюць цяперашнюю Расею.*

Гэткімі контрастамі зьяўляюцца вядомыя крамы Торгсіну. Купіць у іх што-небудзь можна, як ведама, толькі тады, калі вы ўкладзеце ў дзяржаўны банк чужаземныя грошы або золата, у якой хаця форме; ўзамен вам дадуць кніжачку чэкаў на ўкладзеную суму; з гэтымі чэкамі можна ісьці ў Торгсін.

Гэткі парадак выклікаў спэкуляцыю на „чорнай біржы“.

Карыстаючы з таго, што офіцыяльны курс ангельскага фунта штэрлінгаў — менш, як 6 рублёў золатам, а запраўды ён каштуе на савецкія грошы 200 рублёў у Маскве і 300 у Уладывастоку,—махляры на чорнай біржы скупляюць у прыехаўшых у СССР чужаземцаў прывезеныя імі грошы, кладуць іх у банк ды, атрымаўшы чэкі на права купляньня ў Торгсіне, сваім парадкам перапрадаюць гэтыя чэкі савецкім грамадзянам.

Вельмі зразумела, што падобная апэрацыя пакідае значны процант у кішанёх спрытных махляроў.

Ня гледзячы на забарону, апэрацыі гэткія робяцца блізка што зусім яўна.

Трэба дадаць, што Торгсін — гэта спрытна прыдуманы способ выпампаваць з галоднага ды абдзёртага савецкага насяленьня нават і тыя астаткі золата або іншых каштоўнасьцяў, якія цудам якім небудзь дзе ў каго яшчэ заваляліся.

Аб падарожы па расейска-азіяцкіх чугунках і далёкім Усходзе Пітэр Флемінг піша:

— „У пачатку кастрычніка я выехаў з Тыфлісу ў Баку. З Баку на параходзе, які спазьніўся на 12 гадз., я дабраўся да Краснаводска—закінутага гарадка, выкліканага да жыцьця Транс-Каспійскаю чугункаю.

Цяпер гэтая чугунка, якая была калісь пудзелам для брытанскіх стратэгаў эпохі каралевы Вікторыі, знаходзіцца ў даволі запушчаным стане. У дарозе ў нашым цягніку пагасла электрычнасьць. Галоўны электра-тэхнік быў арыштованы, але гэта не памагло—пасажыры мусілі тры дні ехаць у цемры.

Цікавым было тое, што мае дарожныя кампаны, па адзіным мягкім вагоне,—дэлегаты, якія кіраваліся на зьезд чугуначнікаў цэнтральна-азіяцкіх чугунак, праз увесь гэты час напружанна падрыхтоўвалі свае даклады, у якіх гаварылася пра ўсялякія чугуначныя палепшаньні, але *ніводзін з іх і пальцам не варухнуў, каб што-небудзь зрабіць дзеля папраўленьня электрычнасьці.*

Цікава таксама і тое, што, ня гледзячы на прысутнасьць у цягніку паважнае лікам азброенае варты, ніхто не прабаваў акельзаць п'янага пасажыра, цундаўшага па ўсім цягніку і злаваўшага ўсіх пасажыраў.

Цяперашнія жыхары Расеі гэтак прывыклі хадзіць у бюракратычных лейцах, што зусім пазбавіліся ініцыятывы. Напэўна, калі ім запрапануюць расьпісацца дзе-небудзь, дык яны зробяць гэта толькі тады, калі ім змогуць паказаць офіцыяльна ад'значанае пунктацыяй месца дзеля подпісу.

У маленечкіх гарадкох, праз якія прыходзіцца праяжджаць, увага падарожных перш за ўсё зьвяртаецца на мясцовыя рынкі, дзе толькі і можна ўзапасіць страву. На іх шмат фруктаў і вельмі мала чаго-небудзь іншага. Самарканд, моцна зруйнованы землятрасеньнямі і крыху менш гарматамі хатняе вайны, жыве тым самым жыцьцём, якім жыў у часы Тамэрляна.

Ташкент аказаўся менш стойкім перад націскам прагрэсу і стандартызацыі—у ім ужо відаць сьляды зьменаў, якія адбыліся ў Расеі за час рэвалюцыі.

У Самаркандзе я перасеў на лінію Турксібу. Мне расказалі, што з 500 інжынераў, будаваўшых Турксіб, 300 сядзяць цяпер у вастрогах.

Турксіб—чугунка, пакуль што, аднакалейная. Пасажырскія цягнікі ходзяць вельмі памалу і ў іх немагчыма дастаць ніякае яды.

За Іртышом, каля Сяміпалацінску, мясцовасьць узвышалася і цягнік некалькі разоў мусіў затрымлівацца і даваць задні ход каб з разгону браць узгоркі.

Новасібірск, які сучасныя савецкія рэклямы завуць „Савецкім Чыкаго“, бліщчыць цэлым радам новых будынкаў. У ім ёсьць вялікі отэль зусім сучаснае будовы. Падарожны можа папасьць у яго, *толькі паказаўшы пасьведчаньне аб тым, што ён быў у лазьні і прадэзынфэкаваў свае рэчы.*

Аднакалейная Амурская чугунка, дзеля ваенных мэтаў, пасьпешна робіцца двукалейнаю. Работы ідуць самым гарачым тэмпам і працуюць тут у большасьці *кулакі*, павысыланыя з іншых мясцовасьцяў, ды ўсялякія „контррэвалюцыянэры“...

Закончанасьць падрыхтоўкі да вайны асабліва заўважваецца ў Уладывастоку. Год назад цывільныя жыхары гораду мучыліся ад недастачы прадуктаў, выкліканае тым, што іх немагчыма было падвязьці, бо чугункі займаліся, галоўным чынам, перавозкаю войска і вайсковых прыпасаў. Цяпер, за сем дзён дарогі ад Новасібірску да Уладывастоку, ўдалося заўважыць толькі некалькі лёгкіх танкаў ды падводных чаек, дастаўляных чугункаю.

Уладывасток добра ўмацованы, але, калі ня лічыць сільнае базы падводных чаек, дык сілы сав. ваеннага флёту на Далёкім Усходзе даволі нязначныя.

Галоўны камандзер далёкаўсходняе арміі Блюхер, болей вядомы ангельскай публіцы пад імем Галена, выбраў сваею штаб-кватэраю Хабараўск.

— Расея ня хоча вайны, — кажа Флемінг, — але чакае яе, як нечага няўхільнага“.

# Абразкі з савецкага быту.

Ня гледзячы на тое, што ў СССР няма іншае прэсы, як толькі „казённая“, у бальшавіцкіх газэтах здараюцца часам, у парадку г. зв. самакрытыкі, кароценькія апісаньні таго ці іншага боку незайздроснага жыцьця савецкага грамадзяніна.

Піша, напрыклад, работнік аднаго з харкаўскіх заводаў у маскоўскую „Правду“ пра парадак у харкаўскіх лазьнях:

„Жыву я ў Харкаве. У выхадны дзень пайшоў у лазьню; чарга вялізарная; прастаяў 2 гадз. 40 мін. і вярнуўся дамоў. Прыйшоў на другі дзень; у чарзе пры касе мусіў стаяць 1 гадз. 15 мін. Але каля дзьвярэй г. зв. першае клясы—ізноў чарга. Яшчэ 40 мін. стаяньня і, нарэшце, ўпусьцілі. Далі нумар да скрынкі на вопратку. Але і тут чарга. Скрынка занята. Чакай, пакуль твой папярэднік выкупаецца і апранецца. Але вось вы ўжо распрануліся і асьцярожна ступаеце па густа-гразнай падлозе. Чэцьверць гадзіны праходзіць у шуканьні ражкі. Літаральна вырываеце яе ў канкурэнтаў і падходзіце да крану. Але... цячэ толькі кіпень. Халоднае вады сягоньня няма. З душа таксама б'е адзін толькі кіпень.

Усе гэтыя мытарствы дапаўняюцца грубасьцю з боку пэрсоналю, які абслужвае лазьню“.

„*Няма сшыткоў!*“ — крычыць тая самая „Правда“. У савецкіх школах не стае сшыткоў, а тыя, якія ёсьць, самае найгоршае якасьці: грубыя, шурпатыя, няведама якога колеру вокладкі лёгка ўсмоктваюць гразь і праз гэта зашмальцованыя і неахайныя. Плямаў і замазаных словаў куды больш, як гэта можа быць дапушчана нават для вучняў першае клясы, і ў гэтым віна не дзяцей,—рэдка ў якім сшытку можна знайсьці малюсенечкі кусочак прамакачкі. Гэткія сшыткі папяровая прамысловасьць дастаўляе ў школы. За 11 месяцаў 1934 г. школы атрымалі на 70 мільёнаў сшыткоў менш, як ім належалася.

У „Вечерняй Москве“ знаходзім гэткае пісьмо ў рэдакцыю:

„Мною было заказана дэмісэзоннае пальто ў майстроўні Швэйкоопрэмонту № 4 чацьвёртага кастрычніка. Срок першае прымеркі паказаны быў на 16 кастрычніка, а выпаўненьне заказу — 6 лістапада. Пачынаючы з 16-га кастрычніка, я хадзіў на прымерку дзесяткі разоў і кожны раз дзень прымеркі майстроўня адкладала на заўтра. На дзевятнаццаты дзень, 4-га лістапада, прыказчык Шчарбакоў нарэшце сказаў мне: „Заказ зараз прынясуць з майстроўні, ён гатовы да прымеркі, сядайце“. Я прасядзеў роўна тры гадзіны, пакуль мне сказалі, што гэта памылка і заказ яшчэ не гатовы. 30-га лістапада мяне пацешылі, паведаміўшы, што пальто ўжо гатовае, засталося толькі прышыць каўнер. Прышываньне каўняра дацягнулі да 16-га сьнежня, а 16 сьнежня загадчык майстроўні Гусеў заявіў, што каўнер згублены. Ад дня заказу прайшло 2 месяцы і 16 дзён, а заказ ня выпаўнены“.

З Украіны заграніцай атрымана гэткае пісьмо за месяц сьнежань 1934 году: „Дарагія дзеці! Прысланыя вамі 100 франкаў (каля 33 злот.) атрымаў. Мне выдалі на 7 руб. 60 коп. торгсінаўскіх знакоў. Купіў за гэта: 60 пудоў вугальля, 2 літры падсонечнага алею, 1 пуд мукі, 4 кілё цукру, 2 кілё манных круп і... (нячытальна) газы на 1 руб“.

Як бачым, дык 100 франкаў — гэта ў саветах вялізны капітал для згаладнелага грамадзяніна.

Аб тым, якая істнуе туга па звозчыку ў СССР, маскоўская газэта „Правда“ піша гэтак:

— „Мы імкнемся стварыць у гарадох усе выгады насяленьню. Але аб аднэй з выгадаў, аб звозчыку, часта забываемся.

Звозчык блізка што зьнік з вуліц нашых гарадоў. А патрэба ў ім вялікая: ці паехаць з рэчамі на вакзал або з вакзалу, ці пераехаць на іншую кватэру, ці выклікаць лекара да хворага, ці завязьці хворага ў больніцу або да доктара і г. д.—не заўсёды можна карыстацца ў гэткіх выпадках трамваем або аўтабусам нават там, дзе ён ёсьць. Але-ж у шмат якіх гарадох няма пакуль што яшчэ ані трамваю, ані аўтабусаў“.

# Трымайцеся свайго пагосту.

Усім ведама, што істнуючая ў Вільні Беларуская Хрысьціянская Дэмократыя, ці т. зв. Хадэцыя, ёсьць партыяй чыста каталіцкай і амаль усім ведама, што сама Хадэцыя да гэтай каталіцкасьці прызнавацца ня любіць

Хадэцыя ўвесь час хоча падтрымаць фікцыю свайго агульнабеларускага прадстаўніцтва і часта піша аб справах чыста праваслаўных на шпальтах свайго органу „Беларускай Крыніцы“.

Былі пры Хадэцыі спробы ўтварэньня і спэцыяльных праваслаўных аддзелаў, аж да „праваслаўнай фракцыі“ уключна, але справа гэтая далёка не пайшла, бо ніхто з паважных беларускіх праваслаўных дзеячоў да яе ня прылучыўся, а праваслаўны народ адносіцца да Хадэцыі з зразумелым недаверам.

Аднак Хадэцыя, як відаць, не траціць яшчэ надзеі прыцягнуць да сябе праваслаўныя масы і, у зьвязку з востра пастаўленай у апошні час справай беларусізацыі царквы. удзеляе на шпальтах „Крыніцы“ праваслаўнай справе што раз то болей месца.

Але вось тут, можа найярчэй, выяўляецца каталіцкасьць Хадэцыі. Кожны артыкул, прысьвечаны „Крыніцай“ ці то беларусізацыі царквы, ці яе ўнутраным справам, пераконвае ў тым, што Хадэцыя можа і разумее патрэбу беларусізацыі Царквы, але сама Царква, як такая, ня толькі зусім яе ня цікавіць, але нават зьяўляецца для яе нечым дрэнным, шкодным, ледзь не пагарджаным.

Відаць гэта нават з тону гэтых зацемак, з іх загалоўкаў. Ну ціж адважылася-б „Крыніца“ напісаць зацемку аб касьцельных справах пад загалоўкам: «Мітусьня на касьцельным пагосьце»?! Напэўна не! Але калі гаворыцца аб царкве, аб нечым для „Хадэцыі“ чужым, нечым горшым, дык можна (глядзі апошні № „Крыніцы“).

Аб царкве „Хрысьціянскай“ „Крыніца“ піша такім самым тонам, якім некалі пісалі аб ёй бязбожныя шкумаціны чырвоных „камікаў“, тым часам, калі піша аб касьцёле, заўсёды здабываецца на належную пашану і павагу. Гэта балюча адчувае кожны шчыры праваслаўны чытач „Крыніцы“.

І ніякай карысьці ня можа прынесьці „праваслаўная“ акцыя Хадэцыі—каб каго; небудзь направіць, трэба яго раней палюбіць, а Хадэцыя праваслаўнай царквы ня любіць.

Кідаецца ў вочы пры чытаньні „Крыніцы“ яшчэ і тое, што аб беларусізацыі каталіцкага касьцёлу на Беларусі яна высьцерагаецца пісаць, як бы там усё было ў парадку. Тымчасам небясьпека палёнізацыі праз касьцёл для беларусаў значна большая ад небясьпекі русыфікацыі праз царку. Што можа з р а б і ц ь падтрымліваная аўтарытэтам улады і дзяржавы польшчына, таго ня зробіць аджыўшы анахронізм—расейшчына. А тымчасам каталіцкая этыка, вярней дысцыпліна, забараняе „Крыніцы“ эмагацца з касьцельнай уладай і то ня гледзячы на тое, што гэтая ўлада ня вельмі лічыцца з „Крыніцай“ і Хадэцыяй.

Хай сабе каталіцкая хадэцыя называецца нават „праваслаўнэй“, нікога яна ашукаць ня можа, ніхто ёй не паверыць, але сваёй „дапамогай“ справе беларусізацыі царквы яна толькі шкодзіць нясьведама можа, але шкодзіць.

Усім памятны той час, калі „Крыніца“ зусім яўна і адкрыта прапагавала унію. ды й цяпер яна гэтага ня выракаецца. Каталіцкасьць „Крыніцы“ таксама усім ведамая, і вось гэтая „Крыніца“ пачынае ўмешвацца ў царкоўныя справы. Калі-б нават яе вывады і дамаганьні былі часам слушныя, то ўсё-роўна сярод шырокіх праваслаўных масаў акцыя яе спаткае зразумелы недавер. Каталіцкасьць „Крыніцы“ кампрамітуе часам выказваную ёй ідэю беларусізацыі царквы. Беларускае, але зрусыфікаванае духавенства, якога на Беларусі маем найбольшы працэнт, хай сабе ня-слушна, але бачыць, дзякуючы „Крыніцы“, у справе беларусізацыі царквы „уніятскую інтрыгу“, а ведама, што яно хутчэй згодзіцца на русыфікацыю ці палёнізацыю, чым на унію.

Разважыўшы ўсё гэта, ня можам ня прыйсьці да вываду, што найлепш зрабіла бы Хадэцыя, каб занялася больш актыўна справай беларусізацыі каталіцкага касьцёлу і пакінула ў супакоі царкву. Беларусізацыю царквы могуць праводзіць і правядуць толькі самі праваслаўныя. Калі Хадэцыі удасца збеларусізаваць каталіцкі касьцёл на Беларусі, мы першыя прызнаем яе заслугу, але тымчасам... тымчасам скажам толькі адно: трымайцеся свайго пагосту!

*Г. Б.*

# Незалежніцкія ідэалы ў разуменьні беларускай Хадэцыі.

У № 2 Беларускай Крыніцы з дня 13.I.1935 г. зьмешчана перадавіца пад назовам: „Школа ў абноўленай БХД.“, у каторай, разважаючы над справай новай пераахварбованай праграмы БХД, аўтар яе перш кажа: „Нашым найвышэйшым нацыянальным ідэалам ёсьць палітычная незалежнасьць беларускага народу“, аднак далей, пераходячы да канкрэтнае праграмы партыі, хоча „пагадзіць“ гэты незалежніцкі ідэал з „сучасным беларускім палажэньнем“ і прапануе: „у праграму ўкладаць ідэалы самыя шырокія, самыя прынцыповыя і самыя справядлівыя...“ Усе гэтыя крыкліва-шумныя ідэалы, як прызнаецца далей у тэй-жа перадавіцы Хадэцыя, патрэбныя ёй толькі як вывеска для атуманьваньня няграматных людзей бо-ж практычна радзіць „розныя пункты праграмы, якіх вымагае сучаснае бягучае беларускае жыцьцё зьмясьціць у *практычных зьменных інструкцыях*“. Гэта другая частка хадэцкае „праграмы“ прызначаецца ўжо для „унутранага спажываньня“.

Як бачым і абноўленая БХД ў аснову свае працы кладзе тую-ж самую старую тактыку:—адно для народу, а другое для сябе. Дасюль Хадэкі вельмі гневаліся, калі хтонебудзь зварочваў увагу на іх няшчырасьць, але тут самі публічна прызналіся да гэтага.

Нічога дзіўнага, што Хадэцыя на шпальтах свае газэціны загібае часта такую вострую опозыцыйную лінію ды вечна крычыць аб „незалежнасьці“, бо-ж усё гэта толькі для „краснага слаўца“, а практычна ўсіх хацела-б узалежніць ад ксяндзоў.

# Беларускі тэатр.

У суботу 12-га гэтага студня ў салі Консэрваторыі пастаўлена было: „У зімовы вечар“ і „Птушка шчасьця“.

На заклік Ф. Аляхновіча, паданы ў свой час беларускімі газэтамі, адгукнуліся аматары беларускага драматычнага мастацтва і закіпела праца над пакліканьнем да жыцьця беларускага тэатру.

Гутарачы з кіраўніком беларускае трупы Ф. Аляхновічам, супрацоўнік наш даведаўся, што спэктакль 12-га студня падрыхтоўваўся больш як месяц часу. Рэпэтыцыі бывалі па 2, па 3 разы ў тыдзень, у прыватным халодным памешканьні, за час апошніх маразоў, пры 4-5 градусах цяплыні.

Ніхто ня змушаў маладых артыстаў (дый ня мог нічым змусіць) да тэй акуратнасьці, з якою яны блізка што заўсёды зьяўляліся на рэпэтыцыі.

Было шмат клопату яшчэ і ад таго, што тэатр закладаўся бяз усялякіх грошай, бяз усялякіх плюсаў тэхнічнага характару: — салю трэба наняць, а за што? Дэкарацыі трэба збудаваць, а скуль узяць матар'ялы?

Толькі за некалькі дзён да спэктаклю, пасьля атрыманьня пазваленьня на спэктакль і пасьля зробленае загадзя прадажы некаторых білетаў, зьявілася магчымасьць набыць патрэбныя малярскія матар'ялы і пасьпешна зрабіць дэкарацыі.

Інсцэнізованая аднаактоўка, паводле твору Э. Ожэшко, „У зімовы вечар“ пастаўлена была першаю і, ня гледзячы на малую сцэнічнасьць (страшэнна доўгія монолёгі), п'еса гэтая прайшла вельмі жыва.

У галоўных ролях выступалі: Аляхновіч (Рысь), Лазарэвіч (Мікула), Паульскі (Аляксей) і Э. Залкінд (Наста).

У „Птушцы шчасьця“ п. В. Бэкішыха (Маланка) і Паульскі (Янка) ды Аляхновіч (Жыд) няраз выклікалі ўзрывы воплескаў на салі, зусім памастацку акцэнтуючы сільна камічныя мамэнты п'есы.

У другім акце камэдыі павялічваў уражаньне адбіванага на сцэне раю, (сон Янкі) балет п. Мурашовай, якому нажаль не давала магчымасьці разьвінуцца цесната малое эстрады.

# Што мне ня гожа, на Табе Божа.

На апошняй сэсыі Сьв. Сыноду Праваслаўнай Царквы ў Польшчы прыняты цэлы рад важных пастановаў ў адносінах да Віленскай епархіі. Перадусім зроблены кардынальныя зьмены ў складзе Віленскай Кансысторыі: Сябра кансысторыі а. Сьцяпан Грамадзкі — брат Уладыкі Аляксея, звольнены з займанай пасады, а на ягонае месца назначаны вядомы архімандрыт Піліп Марозаў. Другі сябра кансысторыі, прат. Краскоўскі пераведзены „ў заштат“, а на ягонае месца назначаны нейкі „аслаўлены“ ды „выгнаны“ з Валыні прат. Відыбіда-Рудэнка.

Задаём на гэтым месцы пытаньне перадусім архіепіскапу Хвядосу, як правяшчаму архіерэю: чым выклікана такаяператасоўка і каму яна патрэбна? Праўда, прат. С. Грамадзкі не беларус, а украінец, але трэба аб'ектыўна зазначыць, што за ўвесь час свайго ўрадаваньня ў кансысторыі ён ніякай варожасьці да беларускай справы не праявіў, а наадварот, разумеў, што тут беларусы маюць свае правы, лічыўся з імі і беларускую справу ў ва ўсіх пытаньнях падтрымліваў і ёй спагадаў. Замена яго на архім. Піліпа Марозава—расейца, па меншай меры зьяўляецца незразумелай.

Другая камбінацыя — замена прат. Краскоўскага на нейкага „прахадзімца“ Відыбіду, — яшчэ горшая. Прат. Краскоўскі лічыць сябе аддаўна палякам, але мусім тут падкрэсьліць з цэлым націскам, што беларускай справе заўсёды выказваў ён як найбольшы спагад, ды ня толькі тэорэтычна, але й практычна: адводзіў беларускай мове ў царкве належнае месца. І каб у такі спосаб зводзіць асабістыя парахункі з старым заслужаным пратаіерэям ды ў даваршэньне ўсяго яшчэ насылаць нам нейкую... бяду — Рудэнку, мы ніяк ад вышэйшае іерархіі не спадзяваліся.

Катэгарычна ад імя ўсяго беларускага праваслаўнага народу (перакананы, што выражаю ягоную думку) пратэстую супроць усякіх ссыльных. Вільня не Камчатка, каб служыла месцам для усіх спракуджаных!!!

Калі Духоўныя Улады ня хочуць мець таго, што тварылася ды творыцца на Валыні, павінны свае пастановы адмяніць неадкладна!

У першую чаргу дамагаемся перагляду прынятых пастановаў ад Мітрапаліта Дзіанісія, якога лічым адказным за царкоўную палітыку. Уважаем, што мітрапаліт Дзіанісій асабліва крыўдзіць якраз *Беларускія Епархіі*, пасылаючы нам розны спракуджаны элемент з другіх епархіяў. Пажаданьні й дамаганьні беларускага праваслаўнага прадстаўніцтва стала й сыстэматычна нашай мітраполіяй не спаўняюцца, а беларускае праваслаўнае духавенства бязупынна паніжаецца. Характэрным доказам такіх адносінаў Мітрапаліта да беларускіх сьвяшчэньнікаў можа служыць новы факт незацьверджаньня на становішчы шчучынскага благачыннага сьвяшчэньніка Івана Кушнера — сьвядомага беларуса. Матывы адмовы, паданыя Мітрапалітам у гэтай справе, ня вытрымоўваюць крытыкі, бо-ж сьв. Іван Кушнер мае ня меншы цэнз і стаж ад зацьверджаных мітрапалітам благачынных расейцаў Багаткевічаў — у Лідзе і Стоўпцах.

*У гэтай справе мы рашчча дамагаемся ад Мітрапаліта адмены ягонай пастановы адносна ўспомненага сьвяшч. Івана Кушнера.*

На заканчэньне хочацца зьвярнуць увагу вышэйшае Духоўнае Улады на вельмі характэрную рыску беларускага народу.

Беларус вельмі разважны, спакойны й цярплівы, але выведзены з раўнавагі становіцца неаблічальным.

Аб гэтым варта ведаць нашай духоўнай іерархіі, асабліва Уладыцы - Мітрапаліту і архіепіскапу Хвядосу.

Крыўдныя для беларусаў адносіны Царкоўнае Улады ўжо зрабілі сваё. *Усе праваслаўныя беларусы незалежна ад іх палітычных кірункаў і грамадзкіх групаў аб'яднаціся ў вадну ўсебеларускую праваслаўную арганізацыю.*

*Раман Аленькавіч.*

# Саарскі плебісцыт.

13-га гэтага студня вялізарная большасьць, бо цэлых 90 процантаў насяленьня Саарскага басэйну, выказалася за прылучэньне да Нямеччыны.

9 процантаў жыхароў выказалася за status quo, г. знач. за цяперашняе палажэньне: каб не належаць ні да Францыі, ні да Нямеччыны, а быць пад кіраваньнем камісіі Лігі Народаў, пакуль у Нямеччыне пануе гітлерызм.

Офіцыяльна апублікованы рэзультат галасаваньня саарцаў гэткі: мелі права падаць свае галасы 540.000 чалавек, з якіх падалі галасы 528.704 асобы.

За паварот да Нямеччыны галасавала 476.089 жыхароў, за статус кво 46.613 і за прылучэньне да Францыі 2.083 галасы. Няважнымі абвешчана 901 голас і белых картак падана было 1.256.

У Францыі рэзультат плебісцыту прыняты спакойна, а ў Нямеччыне, ведама-ж, ён выклікаў трыумф.

Яшчэ да плебісцыту больш як 400 жыдоў пакінулі Саару. Рабінат налажыў пост на сваіх верных у дзень галасаваньня 13 студня, а галоўны саарбрюкенскі рабін д-р Рульс езьдзіў у Жэнэву, прасіць у Лігі Народаў абароны для жыдоў.

Нацыяналь-соцыялістычны „нямецкі фронт“ ладзіць па ўсей Саары вялікія маніфэстацыі трыумфу.

Павадыры „агульнага фронту“, у сваю чаргу, рыхтуюць контр-дэмонстрацыі па ўсіх гарадох Саарскага вокругу, заклікаючы сваіх прыхільнікаў да арганізацыі самаабароны.

Камісія Лігі Народаў, якая кіруе Саараю, арганізуе ўсе сілы дзеля ўтрыманьня парадку.

Гітлер праз радыё горача дзякаваў саарцам і, паміж іншым, сказаў, што ён, пасьля звароту Саары Нямеччыне, зможа выступіць з гэтак патрэбнаю дзеля захаваньня міру ў Эўропе заяваю, што ў Нямеччыны няма больш ніякіх тэрыторыяльных прэтэнсіяў да Францыі.

*С. П.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— У пачатку 1935 г. Таварыства „Пчала“ (Вільня, вул. Каралеўская 3-8) ладзіць трохтыднёвыя завочныя курсы дзеля вывучэньня спосабаў збору і перахоўваньня лекарскіх зёлак. Навука на курсах бесплатная і толькі як зварот коштаў паперы, друку і паштовых расходаў, сябры Т-ва „Пчала“ і падпішчыкі „Бел. Борці“ плоцяць па 2 зл., а ўсе іншыя па 3 зл.

— У канцы студзеня Т-ва „Пчала“ ладзіць вечарыну дзеля прапаганды пчалярства і мёду. У праграму вечарыны ўвойдзе: 1) гісторыя пчалярства (рэфэрат), 2) спажыўныя і лекарскія вартасьці мёду (рэфэрат), 3) літэратурны аддзел (пчала ў літэратуры, казках і песьнях славянскіх народаў), 4) хор—песьні аб пчолах.

— У сувязі з надыходзячымі 25 угодкамі першага беларускага прадстаўленьня ў Вільні, з ініцыятывы гр. Ф. Аляхновіча ўтварылася адумысная Камісія, якая мае 24 лютага г. г. зладзіць урачыстую акадэмію і спэктакль.

— Пасьля доўгага перарыву, мае выйсьці ізноў орган Белар. Студэнц. Саюзу — „Студэнцкая Думка“, працы над выданьнем каторай ўжо распачаліся.

— 26. I. 35 Бел. Студ. Саюз ладзіць на карысьць незаможных сяброў суботнік, які адбудзецца ў памешканьні Саюзу. Уваход для студэнтаў і запрошаных гасьцей.

— Ведамы беларускі спартовец Юры Кэпель, аб каторым мы пісалі ў свой час, калі ён здабыў некалькі першых нагрудаў у Латвіі, ў Варшаве і інш гарадох Польшчы, гэтымі днямі на нарцярскіх гонках у Закапаным зламаў нагу. У сучасную хвіліну Кэпель ляжыць у шпіталі ў Закапаным.

— У сераду 16. I. 35 у памешканьні д-р Я. Станкевіча адбылася зборка дзеля арганізаваньня працы над чысьцінёй беларускае мовы. Наступная зборка вызначана на 2 лютага г. г.

— Гэтымі днямі Унівэрсытэцкія Улады зацьвердзілі статут новай беларускай студэнцкай арганізацыі п. наз.: „Бел. Студэнцкае Таварыства імя Ф. Скарыны“. Арганізацыя гэта паўстала па ініцыятыве сяброў б. Корпарацыі „Скорынія“.

# З краю.

— Праца над асушкай Палесься ўжо дала пэўныя позытыўныя рэзультаты. У косаўскім павеце на месьце, дзе было балота, паўстаў дзяржаўны маёнтак Станевічы. Асушана там 2.000 ha. З гэтага ліку частка дадзена асаднікам, якіх у сяньняшнюю хвіліну, налічваецца ў маёнтку Станевічы 60 семьяў. Пекныя лугі і добрая паша даюць магчымасьць вясьці і малочную гаспадарку. Заложана ўжо малачарня.

— Міністэрства ўнутраных спраў пастанавіла ўвесьці пэўныя льготы для жыхароў вёсак, у галіне пэўных падаткаў, накладаных самаўрадамі. У лік гэтых падаткаў уваходзяць перадусім аплаты, ад рынку, прадажы быдла і г. д. Усе гэтыя аплаты ў хуткім часе маюць быць зьменшаны.

— Як падаюць жэнэўскія карэспандэнты, францускі міністар Ляваль зьбіраецца адведаць хворага міністраБэка,каб парушыць цэлы рад пытаньняў адносна эўропейскай палітыкі, перадусім-жа удзел Польшчы у Рымскім дагаворы ў справе Усходняга пакту.

— Належныя віленскія ўлады разглядаюць пытаньне аб будове чыгуначнай дорогі ад Кабыльнік вакруг воз. Нарач. У гэтай справе пасланы ўжо ў Варшаву абшырны мэмор'ял.

# Гаспадарчы аддзел.

## Аб перахоўваньні яец.

Куры ўзімку кепска нясуцца і дзеля таго кожны, хто хоча мець танныя яйкі праз цэлую зіму, павінен загадзя закансэрваваць іх патрэбную колькасьць.

Яйкі псуюцца хутка дзеля таго, што скарлупа іх мае ў сабе вялікае мноства дробных дзюраччак (пораў), праз якія ў сярэдзіну яйка праходзіць паветра і розныя бактэрыі.Пры кансэрвацыі гэтыя дзюрачкі залепліваюцца кансэрвуючым сродкам і ў яйка ўжо не мае доступу паветра.

Апрача таго, вялікую ролю пры перахоўваньні яец адыгрывае тэмпэратура і сухасьць памешканьня, у якім яны перахоўваюцца. У сухім і халодным памешканьні яйкі могуць досыць доўга ляжаць і не псавацца.

Самы просты спосаб кансэрваваньня яек наступны: бяруцца самыя сьвежыя яйкі, абмазваюцца якім-колечы тукам і кладуцца носікамі ўніз у авёс; пры гэтым трэба зазначыць, што яйкі не павінны датыкацца адно другога. Так зложаныя яйкі ставяцца ў халоднае і сухое месца.

Таксама досыць доўга могуць праляжаць яйкі, калі іх сьвежымі ўлажыць у дубовы попел, у сухую соль, або сухі пясок.

*Кансэрваваньне яек вапнай.* Вельмі добра перахоўваюцца яйкі, калі іх закансэрваваць вапнай. Кансэрваваньне гэтае праводзіцца наступным спосабам: сьвежыя яйкі кладуцца носікамі ўніз у пасуду і заліваюцца досыць густавата разьведзенай гашэнай вапнай. Рашчыну вапны трэба наліць столькі. каб паверхня яго была на два пальцы вышэй ад яек. Вапна з часам высахне і так закансэрваваныя яйкі могуць праляжаць у добрым стане год і болей. Выбіраюцца яйкі, наліваючы на вапну вады, каб размачыць яе.Перад самым ужываньнем такія яйкі трэба мачыць гадзіны дзьве ў салонай халоднай вадзе.

*Кансэрваваньне яек водным шклом.* Водным шклом кансэрвуюцца яйкі найлепей. Воднае шкло можна купіць у аптэцы або аптэчным складзе. Гэта ёсьць содавая крэмянка, якая пры сутыку з шкарлупою яйка, творыць на паверхні н е п р а п у с к н ы шчыльны пласт. Знаходзячаеся ў прадажы, воднае шкло ёсьць густым рошчынам і яго для кансэрваваньня яек трэба разбавіць яшчэ пераваранаю вадою. На адзін літр воднага шкла трэба даць 8 літраў вады. Так разбаўленым і добра зьмешаным рошчынам заліваюцца яйкі, якія перад гэтым складаюцца ў пасуду і абавязкава носікамі ўніз. Рошчыну воднага шкла трэба наліць столькі, каб паверхня яго знаходзілася ня менш як на 2 пальцы над верхнімі яйкамі. Яйкі, кансэрваваныя водным шклом, маюць прысмак соды. Каб такога прысмаку яны ня мелі, трэба іх перад тым, як заліваць водным шклом, намачыць яшчэ ў рошчыне хлёраку магнэзія (на 1 літр вады 150-200 грамаў хлёраку магнэзія).

*М.*

# Заграніцай.

× Як падаюць „Известия“, у Савецкай Беларусі зьліквідавана контррэвалюцыйная арганізацыя. Арганізацыя гэтая, паводле „Известий“, займалася шпіанажам і мела зносіны з беларускімі нацыянал-дэмакратамі, украінскімі нацыяналістамі, расейскімі белагвардзістамі, з польскімі і нямецкімі фашыстамі. Мэтай успомненай тайнай арганізацыі ёсьць адарваньне Савецкай Беларусі ад СССР.

× Група „зіноўеўцаў“, уцёкшая ад сталінскага прасьледваньня ў Румынію, інфармуе заграінчную прэсу аб сучасным палажэньні ў Саветах, а перадусім у паўднёвых акраінах. Паводле іх слоў, антысавецкія настроі ня толькі вёскі, але і работнікаў у гарадох растуць у хуткім тэмпе, лучна з паўстаньнямі, якія пачынаюць прыймаць масавы характар. Так напрыклад, у выніку зьменшаньня „пайку“ работнікам у Адэссе, апошнія забаставалі, дамагаючыся старой нормы. Замест адказу, улады прыслалі некалькі аддзелаў ГПУ. Многа работнікаў арыштавана і саслана ў Салоўкі.

× Прэм'ер Мак Дональд, прамаўляючы да ангельскага народу, асьведчыў, што новы 1935 г. гаспадарча мае быць вельмі памысны. Паводле яго слоў, у гэтым годзе зьменшыцца значна лік безработных, ажывіцца гандаль і прадукцыя.

× Савецкія судовыя ўлады ўжо апублікавалі акт абвінавачаньня супроць Зіноўева, Каменева, Еўдакімава, Бакаева, Герцыка і інш., якім закідаецца прыналежнасьць да тайнага контррэвалюцыйнага цэнтру у Маскве і Ленінградзе. Згодна з дадзенымі, цэнтр гэты меў на мэце пераварот у Саветах. Успомненым асобам закідаецца таксама ўдзел у забойстве Кірова. Справа перададзена Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Суду СССР. За праступкі, якія закідаюцца абвінавачаным, пагражае растрэл. Падобна, усе абвінавачаныя прызналіся да прыналежнасьці да контррэвалюцыйнага цэнтру і да віны.

## Пастанова эканам. К-ту Міністраў у справе публічных працаў у 1935-36 г.

Эканамічны Камітэт Міністраў на апошнім паседжаньні разьглядзіў і зацьвердзіў плян работ Фундушу Працы на 1935-36 г.

У будучым бюджэтным пэрыядзе прадбачацца дзьве аснаўныя формы крэдытаваньня: для працаў, якія будуць рэнтавацца — пазыка, для усіх іншых — датацыя.

Адначасна Эканам.К тэт Мін. пастанавіў, што на работы, крэдытаваныя Фундушам працы, могуць быць прыйманы выключна безработныя, заквалікаваныя адносным бюрам Пасрэдніцтва Працы. Платы работнікаў будуць вызначацца ваяводзкім бюрам Фундушу Працы згодна з інструкцыямі міністэрства грамадзкай апекі. Інструкцыя гэта наказвае, каб плата выкваліфікаваных работнікаў, працуючых у сваёй прафэсыі, ня была меншая ад сярэдняй мясцовай платы выкваліфікаваных прамысловых работнікаў тэй-жа катэгорыі, а плата не выкліфікаваных — адказвала б сярэдняй мясцовай плаце такіх-жа прамысловых работнікаў.

Калі інстытуцыя, якая вядзе работы пры помачы крэдытаў Фундушу Працы, прыймае работнікаў, пражаваючых у іншым месцы, то яна павінна даць ім адпаведныя памешканьні і на свой кошт з'арганізаваць праезды з месца пражываньня да месца працы і назад.

З крэдытаў Фундушу Працы на 1935-36 год Эканамічны Камітэт Міністраў пастанавіў прызначыць: на дарогі і вуліцы — 30.892.800 зл., на работы комунікацыйна-водныя —9.606.600 зл., на работы мельёрацыйныя—-3.871.000 зл., на рэгуляцыю нясплаўных рэкаў — 4.488.000 зл., на будову памешканьняў для работнікаў 5.000.000 зл., на гарадзкія інвэстыцыі і інш. — 12.761.000 зл.

Рэалізацыя вышэй азначаных крэдытаў дасьць працу каля 75 тыс. безработным.

## Цэны на віленскіх рынках.

На віленскіх рынках даецца заўважыць далейшая зьніжна цэн на спажывецкія прыпасы. Гандаль даволі жывы. Некаторыя цэны былі выняткова нізкія: 1 кілё масла — 2 зл., літр найлепшай сьмятаны—1 зл , яйкі—па 7-8 гр. штука. Вязку дроў можна купіць за 4-6 гр. Кілё саланіны каштуе 1 зл. — 1 зл. 20 гр.

## Савецкія цэны.

„Вечерняя Красная Газета“ апублікавала прэйс курант савецкіх крамаў, уведзены пасьля скасаваньня хлебных картачак.

Цэны прадуктаў выглядаюць гэтак:

Хлеб чорны з мукі 95 прац. памолу 1 руб. 10 кап. кілё, запараны, сталовы і украінскі 95 прац. 1 р. 20 к., пшанічны з мукі 85 прац. памолу 1 р. 20 к. пітлёваны менскі з пітл. мукі 10 прац. 1 гат. 3 р. 40 к., пшанічны з мукі 75 прац. памолу 3 р. 50 к. Абаранкі простыя з мукі 75 прац. 5 р. 50 к. цукровыя і сухарыкі 30 прац. 7 р. 80 к., Бублікі з мукі 75 прац. памолу 5 р. 50 к., Франц. булкі 75 прац. пам. 200 грам. вагі 1 р. 45 кап. штука. Пітлёваны хлеб жытні, 400 гр. вагі 10 прац. пам. 1 р. 60 кап., сітны з радзынкамі 30 прац. пам. 6 р. 80 к., сітны з радзынкамі 75 прац. памолу 4 р. 30 кап. Булка венская салодк. з мукі 30 прац. пам. 8 р. 80 к. Булка венская салодк. 75 прац. пам. 7 р. 50 к. Франц. булка вагаю ў 100 гр. 30 прац. памолу 75 кап. Пшано тоўчанае 1-шы гатунак 3 р. 10 к. кілё, 2-гі гатунак 2 р. 90 к. Дранец 2 р. 90 к. Пшано дробненае 2 р. 60 к. Крупы грачышныя (ядрыца) 5 р. 10 к., Крупы манныя 6 р. 10 к. Пансак сямёхнумарны № 3 і 4 — 4 р 10 к. трохнумарны 3 р. 40 к, — № 5, 6 і 7 — 4 р. 50 к. — Крупы ячменныя дробн. 2 р. 60 к. Аўсянка дробн. 2 р. 40 кап. нядробн. 2 р. 10 кап. Крупы кукурузныя 1 р. 90 к. Гарох лушчаны 4 р. 80 кап., сталовы буйны 4 р. 30 к., дробны і сярэдні 8 р. 80 к., шэры 2 руб. 80 кап. Фасоля белая 4 р. 70 кап. колерная і мешаніна 4 р. 70 кап. Сачэўка талерачная 3 р. 60 кап., дробнанасенная 2 р. 10 к., Боб кармовы 2 р. 10 к. Рыс 1-шы гатунак 10 р., 2-гі гатунак 8 руб.

Цэны на гэтыя посныя прадукты ў бальшавіцкай дзяржаве, як бачым, далёка ня ...„райскія“.

## САВЕЦКІ ГУМАР.

### У сав. Музэі.

— Цікава... Чаму гэта экскурсанты замест таго, каб прыглядацца абразам, цiснуцца каля вакна?

— На замазку любуюцца. Гэта-ж таксама музэйная рэдкасьць.

### У Сав. бібліятэцы.

— Што-ж гэта ў вас у бібліятэцы ўсяго пяць кніг, а дзяжурных двое?

— А як-жа інačай: я пайду — у яе кнігу сьцягнуць, яна пойдзе— у мяне.,. сапруць... А ў двох спакайней!..

### На чыгуначных дарогах СССР.

— Што гэта вы, браткі, робіце?

— Дарогу ад сьнегу чысьцім, а то, глядзі, сьнегачысьцільнік ізноў увязьне...

**Навучайце сваіх дзяцей чытаць і пісаць пабеларуску!**

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.